*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 25 (237) 21 чэрвеня 1995 г. Кошт — 100 рублёў

# Замак на замку, або «Ура, товарищи!»

Імпрэсіўныя нататкі са святкавання 500-годдзя Мірскага замка

*3 чэрвеня ў старажытным Міры адбылося свята, прысвечанае 500-годдзю Мірскага замка — перліны айчыннай архітэктуры, сведкі шматлікіх гістарычных падзей. Мірскі замак занесены ЮНЕСКА ў спіс найбольш каштоўных архітэктурных помнікаў свету.*



Няшмат святаў засталося ў нашым нястачным жыцці. Таму столькі ўвагі прыцягнула гэта. Шматлікія аўтобусы везлі і везлі на святкаванне людзей з усіх куткоў Беларусі. Пад'ехаў і аўтобус ад Фонду культуры. Да пачатку тэатралізаванага дзейства заставалася яшчэ некалькі гадзін. Але ўжо відаць быў яго «размах». Як даведалася ад спадарожнікаў, спансараваў урачыстасць у асноўным Фонд культуры, дапамог і Фонд Сапегі. Фірма «Дайнова» аплаціла друкаванне буклетаў, запрашэнняў... Можна сказаць, збіралі па капейчыне — хто колькі ахвяруе з устаноў, прадпрыемстваў.

Дзень выдаўся спякотны, ясны. Між па-пляжнаму апранутых гледачоў хадзілі рыцары з належнай рыцарскай атрыбутыкай, Чароўныя Панны, лучнікі «А ля Робін Гуд». Белая пластмасавая карэта рыхтавалася ўзвезці на сцэну князя Радзівіла Пана Каханку. У адным з вузкіх завулкаў Міра спехам дараблялі «цыганскую кібітку». Ну і, канешне, на кожным кроку сустракаліся людзі ў нацыянальных строях, — старыя і маладыя, удзельнікі мастацкай самадзейнасці і проста... беларусы.

І лунані над вясёлым натоўпам нацыянальныя недзяржаўныя сцягі. І ніхто не касавурыўся на іх і не абражаў тых, хто іх насіў. Гісторыя ж... Тэатралізаванае прадстаўленне... Вунь і над сцэнай вісяць тры бел-чырвона-белыя харугвы...

А па сцэне перад фасадам замка пачыналася дзейства. Найбольш трывушчыя ці зацікаўленыя гледачы згрувасціліся пад палючым сонцам, напінаючы вяроўку, якая агароджвала ад іх сцэну, даючы прастору фота-радыё- і тэлекарэспандэнтам, і горача дыхалі адзін аднаму ў патыліцы. За парадкам сачылі дужыя хлопцы-амапаўцы. А на памост выйшлі знакамітыя

*(Заканчэнне на с.3.)*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ** праігнаравалі гараджане: ва ўсіх буйных гарадах, абласных цэнтрах і сталіцы на выбарчыя ўчасткі з'явілася менш як палова грамадзян, а таму галасаванне ніякага плёну не прынесла. У Менску выказаць адносіны да кандыдатаў у дэпутаты гарадскога і раённых Саветаў пажадалі ўсяго каля 20 працэнтаў гараджан. Паводле папярэдніх звестак Цэнтрвыбаркама, выбары адбыліся ва ўсіх 1447 сельскіх, 109 пасялковых Саветах і амаль ва ўсіх сельскіх раёнах. Агульная карціна актыўнасці выбаршчыкаў выглядае наступным чынам: Брэсцкая — 50,2%, Віцебская — 53,0%, Гомельская — 56,2%, Гродзенская — 49,3%, Магілёўская — 53,5%, Менская — 57,2%.

○ ***У МЕНСКУ АДБУЙСЯ III НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ.*** *Удзельнікам фестывалю даслаў віншаванне Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Жадаю ўдзельнікам фестывалю вялікага плёну, новых здзяйсненняў, высокіх творчых дасягненняў на карысць развіцця нацыянальнай культуры і ўзбагачэння духоўнасці беларускага народа». Да гэтых слоў яшчэ б рэальную прэзідэнцкую падтрымку менавіта нацыянальнай культуры!*

○ **14 ЧЭРВЕНЯ АДБЫЛАСЯ** нечарговая 17-я сесія Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання. Дэпутаты разважалі пра тое, што раней самі ж і нарабілі.

○ ***У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛО ПАСЯДЖЭННЕ КАМІТЭТА АБАРОНЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.*** *Удзельнікі пасяджэння выказалі сваю занепакоенасць тым, што рэферэндум узаконіў прыярытэт расійскай мовы перад беларускай. Прынята адпаведная заява.*

○ **У БЕЛАРУСКІМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ** адкрылася выстава «Прыкладное мастацтва Кітая».

○ ***ЧАРГОВЫ САМІТ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ І ЎРАДАЎ КРАІН САДРУЖНАСЦІ АДБУДЗЕЦЦА З ЛІСТАПАДА Ў СОЧЫ.***

○ **У «НАРОДНАЙ ГАЗЕЦЕ» НА ДВУХ НАМЕСНІКАЎ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА СТАЛА МЕНШ.** Згодна з дакументам, зроблена гэта «з мэтай паляпшэння кіраўніцтва рэдакцыяй».

○ ***БЫЛЫ ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ» ІОСІФ СЯРЭДЗІЧ БУДЗЕ*** *выпускаць новую газету з назвай «Народная воля».*

*Актуальна*

## ЗАЯВА
## ўдзельнікаў Круглага стала «Лёс роднай мовы і задачы грамадскіх арганізацыяў»

1. Антыбеларускія сілы, паслядоўна імкнучыся да знішчэння нашае дзяржавы, навязалі краіне незаконны рэферэндум, які паставіў пад пагрозу будучыню беларускае мовы і нацыянальнае культуры. У бліжэйшы час нельга разлічваць на спрыянне цяперашніх уладаў беларускаму нацыянальна-культурнаму і моўнаму адраджэнню. Асноўным гарантам перспектывы беларускае мовы зноў становіцца грамадскі рух.

2. У новай сітуацыі вызначаецца прыярытэт наступных стратэгічных задач:
— скансалідаваць усе сілы, якія выступаюць за выкананне Закону аб мовах;
— дамагацца безумоўнага выканання палажэнняў Закону аб мовах і Канстытуцыі ад усіх дзяржаўных органаў і ўстаноў;
— захаваць кадравы патэнцыял і стварыць мэтадычную базу беларускамоўнага выкладання на ўсіх узроўнях адукацыі;
— стварыць незалежную беларускамоўную інфармацыйную прастору;
— зарыентаваць на моладзь папулярызацыю гістарычных і нацыянальна-культурных ведаў і беларускамоўную масавую культуру.

Для выканання пастаўленых задач неабходна супрацоўнічаць з магчымымі спонсарамі нацыянальна-культурных праграм.

3. Дзеля каардынацыі працы ў названых кірунках стварыць пры Каардынацыйным камітэце абароны беларускай мовы адпаведныя структуры з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх, культурных і палітычных арганізацый.

4. Прыняць неадкладныя захады дзеля захавання і абароны наяўных беларускамоўных навучальных і дашкольных установ, класаў, груп, а таксама стварэння новых, у тым ліку недзяржаўных, беларускамоўных навучальных установ з высокім узроўнем выкладання. Аднавіць працу Таварыства беларускай школы.

5. Правесці агульнанацыянальную канферэнцыю з мэтай выпрацавання стратэгіі і тактыкі супольных дзеянняў дзеля абароны роднай мовы.

*8 чэрвеня 1995 г.*
*г.Менск.*

# Мы не адныя!

**6 чэрвеня Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны мовы склікаў «круглы стол» дзеля абмеркавання надзённых задачаў грамадскіх арганізацыяў.**

Праваруч мяне сядзеў шаноўны Якуб Якубоўскі з таварыства «Аль-Кітаб», з якім мы разгаварыліся. Ён даў мне пачытаць старонку часопіса «Байрам», дзе паведамлялася пра тое, што беларускія татары, якія вось ужо 600 гадоў жывуць з намі, разам з намі атрымваюць дары гэтай зямлі, а таксама пакуты ад не ворагаў ды лічаць нашу мову сваёй роднай і, вядома ж, не выракуцца яе. Вельмі ўсцешыў мяне шаноўны сусед: то ж мы не адныя!

Удзельнікі «круглага стала» падтрымалі прапанову Ніла Гілевіча звярнуцца да міжнародных арганізацыяў, да сусветнага грамадства. Прысутныя пагадзіліся, што пра злачынныя намеры знішчыць нашу мову і культуру, а значыць, нацыю, трэба паведаміць у ЮНЕСКА, у пасольствы, народам-суседзям, сама перш тым, хто жыве на Беларусі.

Пра што мы будзем пісаць ім, чаго прасіць? Ці ўсе зразумеюць нашу — але і агульначалавечую! — бяду, ці здолеюць уявіць духоўны Чарнобыль, што абрынуўся на Беларусь? Праблема, якая сёння хвалюе нас, у свеце даўно ўжо вырашана. Цывілізаваныя краіны маюць адпаведныя законы. А сусветную грамадскасць, асабліва рэлігійную, трывожыць іншая праблема, якую нават не ўсведамляе

*(Заканчэнне на с.2.)*

*Актуальна*

# Мы не адныя!

(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)

наш народ. Гэта — абарона права яшчэ не народжанага чалавека. Людзі дамагаюцца забароны абортаў — свядомага забойства дзяцей! То не застануцца яны абыякавымі да іншага зла-чынства — намеру знішчыць цэлую нацыю, якая хоць і мае тысячагадовую гісторыю, пасля 200-гадовага генацыду знахо-дзіцца ў такім жа — эмбрыя-нальным — стане.

І пэўна ж, не будуць спасылацца на жаданне народа, які «выказаўся» на рэферэндуме. Там добра ведаюць, што такія важныя для чалавецтва, — так, для чалавецтва, а не толькі для беларусаў! — праблемы не вырашаюцца такім чынам, як цяпер на Беларусі. Да таго ж, вядома, як «галасавалі».

Самым важным для чалавецтва будзе неабходнасць захаваць беларускую нацыю, беларускую мову, беларускую культуру — гэта абавязак чалавецтва, калі таго не разумеюць усе беларусы.

Але міжнародная супольнасць павінна ведаць і пра тое, што не ўсе беларусы пагадзіліся — і ніколі не пагодзяцца! — з антычалавечым намерам знішчыць наш Народ.

За «круглым сталом» абмяркоўвалі неабходнасць аб'ядналь усе дэмакратычныя беларускія згуртаванні і суполкі і пачаць карпатлівую працу дзеля будучыні нашага народа.

Вядома, абмежаваны час сустрэчы не даў магчымасці разгледзець усе актуальныя задачы, таму прагучала прапанова тэрмінова склікаць канферэнцыю, на якой будуць абмеркаваны моўная палітыка ў Беларусі і канцэпцыя стварэння нацыянальнай адукацыі. Дзеля вырашэння праблемы захавання нацыянальнай сістэмы адукацыі было прапанавана адрадзіць Таварыства беларускай школы, якое дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі.

Удзельнікі «круглага стала» пагадзіліся з меркаваннем, што неабходна дамагацца, каб дзяржава, увёўшы двухмоўе, захавала прыярытэт беларускай мовы, каб быў створаны беларускі нацыянальны універсітэт, каб студэнты вышэйшых навучальных устаноў працягвалі вывучаць беларускую мову.

Некаторыя з удзельнікаў прапанавалі склікаць надзвычайны з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, чарговы нацыянальны кангрэс, а таксама ўтварыць Камітэт нацыянальнага ўратавання. Быў прыняты таксама Зварот.

**З.СІЦЬКА.**

*Цікавы суразмоўца*

# «Нацыяналістамі робіць не мова», — лічыць прадпрымальнік

— Неафіцыйна наша фірма існуе ўжо некалькі гадоў, а афіцыйна зарэгістраваная ў канцы мінулага года. З гэтай і шэрага іншых прычын я прашу не згадваць у публікацыі маё імя, але гатовы адказаць на пытанні, — пачуў наш карэспандэнт падчас размовы з менскім бізнесменам. Так пачалася іх гутарка.

**— Чым займаецца Ваша фірма?**

— Думаеце, купляй-прадажам? Не — вытворчасцю: спецыялізацыя — керамічныя вырабы, попыт на якія цяпер дастаткова значны.

**— Бізнесам Вы, як і большасць нашых суайчыннікаў, пачалі займацца толькі ў апошнія гады?**

— Не будзе памылкай сказаць — усё жыццё. З часу атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі я ніколі не працаваў у дзяржаўных структурах, а наадварот — заўсёды зарабляў грошы сам, без падтрымкі дзяржавы.

**— Наша размова вядзецца па-беларуску. Гэтай жа мовай Вы карыстаецеся, ведучы свае справы? Калі так, ці не стварае гэта праблем?**

— Ніякіх. Бо сваім наёмным работнікам я плачу грошы. А людзі, што працуюць у мяне, не гастарбайтары, а свае, тутэйшыя. Што датычыць людзей, якія не знаходзяцца ад мяне ў залежнасці, дык яны, маючы са мной грашовыя справы, заўсёды аказваюцца настолькі карэктнымі, каб не выстаўляць моўных прэтэнзій. Тое, што я маю справы з грашыма, дазваляе паставіць на сваё месца і асобаў, мала схільных да беларушчыны. Бо ад стаўлення іх да нашай фірмы і яе традыцый залежыць кошт прадукцыі, якую яны ў нас купляюць. Фінансавае становішча нашых работнікаў і кампаньёнаў папросту залежыць ад іх стаўлення да беларушчыны.

**— Ці ж уплывае на становішча прадпрыемства станоўчае ці адмоўнае стаўленне да беларускасці ўладаў?**

— Улады ва ўсім свеце прэтэндуюць на частку заробленага такімі, як я. Але адзін з іх прэтэндуе на большую частку, другі — на меншую. Адзін урад прымае сімволіку, другі яе забараняе. Менавіта гэтыя захады ўладаў і дазваляюць мне вызначыць сваё да іх стаўленне. Змена сімволікі, думаю, таксама адаб'ецца на нашым становішчы. Асабіста я — не прыхільнік новай, таму мы скасавалі адзін з нашых дагавароў, які прадугледжвае выпуск прадукцыі з дзяржаўнай сімволікай. Гэта азначае пэўныя страты. Затое мы маем намер пашырыць выраб сувеніраў з выкарыстаннем гістарычнай геральдыкі і нацыянальнай сімволікі, што, спадзяюся, дасць зыск.

**— Палітычныя змены ўплываюць на Вашу дзейнасць?**

— Вы маеце на ўвазе арыентацыю цяперашняга кіраўніцтва, а значыць, і дзяржавы на Усход? Як вытворца, я зацікаўлены мець Расію ў якасці беспадатковага сыравіннага прыдатка. З другога боку, мне выгадна, не плацячы падаткаў, выходзіць на расійскі рынак, цэны на якім значна вышэйшыя, а канкурэнтаў нашай прадукцыі пакуль што няма.

Хаця ёсць, канешне, і іншыя, для якіх уваходжанне ў эканамічную прастору Расіі створыць значныя цяжкасці. Канкурэнцыя расійскіх вытворцаў зробіць іх палымянымі прыхільнікамі эканамічнага і палітычнага суверэнітэту Беларусі і сапраўднымі нацыяналістамі незалежна ад таго, якой мовай яны карыстаюцца.

**— Гэта значыць, што ў будучыні можна чакаць больш актыўных кантактаў паміж прадпрымальнікамі, з аднаго боку, і дзеячамі нацыянальнымі і палітычнымі — з другога?**

— Вы гаворыце аб стварэнні беларускага фінансавага лобі ў Вярхоўным Савеце і адміністрацыі Прэзідэнта? Кожны, хто зарабляе грошы, мае права распараджацца імі, як жадае, у тым ліку і дзеля палітычных пераўтварэнняў на сваю карысць. Але асабіста я палітыкаў не фінансую. Палітычныя партыі — з'ява складаная, часта іх пазіцыі залежаць ад асабістых амбіцый лідэраў. Палітычная арыентацыя людзей мяняецца ў залежнасці ад розных чыннікаў. Таму, калі ўжо ўкладаць грошы, дык, на мой погляд, у справы больш пэўныя — нейкія музеі ці культурныя праграмы. Дарэчы, з гэтага меркавання мая фірма нядаўна аплаціла паездку групы дзяцей са сталіцы ў Мірскі замак. Бо нацыянальная культура, нацыянальны рух вечныя. А даваць грошы палітыкам... Сітуацыя ў краіне не настолькі крытычная. Да таго ж я не ведаю партыі, якая б адназначна арыентавалася на бюргерства і абараняла такім чынам мае інтарэсы. Я разумею, што «Дайнова», як флагман нацыянальнага бізнесу, мусіць некаму нешта даваць, падтрымліваючы сваю рэпутацыю. Але сярэднія і дробныя прадпрымальнікі пакуль далёкія ад палітыкі.

**— Як успрынялі Вы паражэнне на выбарах і падчас рэферэндуму нацыянальных сіл і што, на Ваш погляд, стала гэтаму прычынай?**

— Нацыяналы прайгралі — гэта кепска, бо гэта азначае — прайграў і я. А прычыны? На мой погляд, адна з галоўных — адсутнасць цэнзу на права галасавання. Адбылося так, што лёс незалежнай Беларусі вырашылі людзі, выхаваныя савецкай сістэмай. Думаю, калі б падчас выбараў аднаразова быў ужыты маёмасны цэнз, дык людзі, якія галасавалі за савецкую сімволіку і савецкай думкі дэпутатаў, не разумеючы, што менавіта з-за іх яны сталі жабракамі, устрымаліся б ад галасавання і вынік быў бы іншым.

Але галоўную прычыну я бачу ў арыентацыі беларускіх нацыянальных палітыкаў на сацыяльныя нізы і работнікаў бюджэтнай сферы. Паглядзіце: сёння найбольшы ўплыў маюць не тыя беларусы-інтэлектуалы, што працуюць у дзяржаўных установах, а тыя, што вязуць на сталічны стадыён «Дынама» тавары, набытыя ў шоп-турах. Менавіта яны закладаюць падмурак нацыянальнай эканомікі, а значыць — нацыянальнай незалежнасці. Дык вось, гэтыя прадпрымальнікі — а іх мільёны — засталіся па-за ўвагай тых палітыкаў, што спрабавалі гаварыць ад імя ўсяго беларускага народа. Але ж менавіта гэтыя людзі, якія найбольш імкнуцца да змен, былі не заўважаны тым жа БНФ, бо яны не мелі часу хадзіць на мітынгі і выступаць з заявамі ў абарону роднай мовы. А без іх нацыянальна-дэмакратычныя партыі аказаліся сектамі, а не часткамі адзінага народнага руху.

**— Нацыянальны рух прайграў таму, што не быў звязаны з бізнесам?**

— Сёння ў нацыянальным палітычным руху камандныя вышыні займаюць людзі, большасць з якіх усё жыццё працавала і працуе на дзяржаўных пасадах. Тыя, якія робяць свой бізнес, аказаліся збоку. Але ж сёння сярэднестатыстычны беларус — не гаспадар фірмы ці дзяржаўны служачы, а «чаўнок», абвешаны торбамі. На гэтага беларуса нацыянальныя палітыкі не арыентаваліся. Думаю, ім варта было б выходзіць на вуліцу, каб слухаць, а не крычаць, і наведваць не толькі знаёмых гісторыкаў ды мастакоў, а і Камароўскі рынак — цікавіцца настроем нармальных людзей, якія, хаця і не заўсёды гавораць па-беларуску, з'яўляюцца большымі нацыяналістамі, чым уяўляюць сабе гэта беларускамоўныя палітыкі.

**— Нацыяналізм і бізнес настолькі звязаны паміж сабой?**

— Прэзідэнт разважае, ці не варта нацыяналізаваць прыватныя банкі, а стрымлівае яго тое, што ў іх знаходзяцца замежныя ўклады і на Захадзе можа падняцца шум. А інтарэсы айчынных укладчыкаў і айчыннага капітала? А прэзідэнцкі Указ № 25, які ўскладняе экспартна-імпартныя аперацыі? А падрыхтоўка да спынення чэкавай прыватызацыі? А рыхтаваны Указ аб перарэгістрацыі прадпрыемстваў? Усё гэта не надае стабільнасці пазіцыям беларускага бізнеса і часам робіць маіх расійскамоўных калег сапраўднымі беларускімі нацыяналістамі.

**— Вынікам гэтага становяцца нейкія палітычныя патрабаванні, якія яны выстаўляюць?**

— Я не магу гаварыць ад імя другіх. Асабіста мяне як прадпрымальніка задаволіць любы ўрад, які адчыніць межы як на Усход, так і на Захад для ўсяго, за выключэннем зброі, наркотыкаў і незаконнай міграцыі. Як грамадзяніну мне патрэбна таксама няшмат: уласная дзяржаўная палітыка, якая грунтуецца на абароне маіх інтарэсаў грамадзяніна.

**— Вядома, што камерцыяй займаюцца не толькі прыватныя асобы, але і ТБМ. Ці даводзілася Вам з ім супрацоўнічаць?**

— Фінансавыя кантакты паміж мной і Таварыствам вельмі абмежаваныя: часам я набываю выдатную іх літаратуру. Яны маглі б выглядаць зусім па-іншаму, але гэта залежыць не ад мяне. Бо паглядзіце, чым займаецца ТБМ? Выдаюцца кніжкі, якія я не магу купіць. Магчыма, мэта існавання Таварыства — забеспячэнне Рады літаратурай і прынясце слёзных заяў у падтрымку роднай мовы? Але калі яно створана дзеля эфектыўнай абароны правоў беларускай мовы і яе носьбітаў, дык яно мусіць быць эфектыўна дзеючай, уплывовай, а значыць — багатай арганізацыяй.

**— А ці трэба ТБМ, грамадскай арганізацыі, займацца камерцыйнай дзейнасцю? Яе ж багацце — разумовы, інтэлектуальны патэнцыял.**

— А вы паглядзіце, у якой краіне мы жывём! Дзяржава мае сістэму адукацыі, сетку культурных установаў, кіруе большасцю газет і выдавецтваў. Тым не менш, беларушчыне гэтая дзяржава праз свае ўстановы спрыяе мала — менавіта таму і з'явілася няўрадавае Таварыства. А калі недзяржаўная арганізацыя — ТБМ — жадае зрабіць тое, на што шкадуе грошай (маіх і вашых) дзяржава, дык на выкананне сваіх праграм гэтая арганізацыя павінна мець уласныя сродкі, і вельмі значныя. Прасіць грошы ва ўрада ці ў прыватных фундатараў — справа амаль бессэнсоўная, а адзіны сродак іх атрымаць — займацца, як гэта прадугледжвае Статут ТБМ, камерцыяй. Калі гэта не будзе рабіцца, дык, можна быць перакананым, захады Таварыства ў абарону і падтрымку беларушчыны будуць абмежаваныя аднымі заклікамі і лозунгамі.

Як казаў Напалеон, для вайны патрэбныя тры рэчы: грошы, грошы і грошы. Гэтыя ж самыя рэчы патрэбныя і для культурна-асветніцкай дзейнасці: аднаго энтузіязму ці добрых намераў замала.

Але ж камерцыйная дзейнасць ТБМ вельмі абмежаваная, а з гэтай прычыны абмежаваныя і мае з ім кантакты. Да таго ж, маючы грашовыя справы з гэтай арганізацыяй, я пераканаўся: яна не бароніць сваіх інтарэсаў — большую частку атрыманага сумесна прыбытку меў я. Прэтэндаваць на тую дробязь, якою задаволілася Таварыства, мне папросту не дазволіла сумленне.

Усё гэта стварыла ў мяне прыкрае ўражанне існавання ТБМ як папяровай арганізацыі. Мець справы з падобным партнёрам выгадна, але доўга ён не пратрывае. Таму захады для абароны і падтрымкі беларушчыны раблю я сам — гэта падаецца мне больш эфектыўным.

**— Які выгляд яны маюць?**

— Аб гэтым мы гаварылі раней. Але прывяду яшчэ прыклад. Рабіць на маё прадпрыемства прыходзяць людзі часцей малаадукаваныя, гатовыя займацца фізічнай працай. Веданне імі мовы, гісторыі і культуры краю, мякка кажучы, абмежаванае. Але тыя работнікі, што займаюцца вырабам сувеніраў, у твар ведаюць найбольш вядомых беларускіх пісьменнікаў і добра знаёмыя з гарадской геральдыкай Беларусі часоў сярэднявечча. Бо яны матэрыяльна зацікаўленыя ў тым, каб не блытаць медалі з выявамі Купалы і Багдановіча ці гербы розных гарадоў. І сталіцу яны называюць менавіта Менск, бо гэткая назва выкарыстоўваецца ў вытворчай дакументацыі.

Падатковы інспектар, калі прыходзіць у нашу фірму, пачынае гаварыць па-беларуску хаця б дзеля таго, каб не вылучацца сярод прысутных. Банк, у які я звярнуўся, каб адкрыць рахунак фірмы, аформіў дакументы па-беларуску, зрабіўшы гэта, як выключэнне, нават для прыватных асобаў. Часам здаецца, што мне дазваляецца больш, чым іншым, — спрацоўвае прыхаваны патрыятызм людзей, да якіх я звяртаюся.

Я і падобныя мне ствараюць новы вобраз беларуса, які без махання сцягам і крыкаў «Жыве Беларусь!» робіць усё, каб яна жыла — жыла як багатая і незалежная дзяржава заможных і ні ад каго не залежных людзей.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

# Замак на замку, або «Ура, товарищи!»

(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)

«Харошкі» ў цудоўных старажытных касцюмах, дакладна як на нясвіжскіх «парасунах». Красуні, абапіраючыся на рукі галантных рыцараў, прахаджваліся па сцэне пад адпаведную музыку. Відовішча захапляльнае, трохі трывожнае і, відаць, нязвыклае для тых, хто ўяўляе гісторыю Беларусі «ў лапцях» («Это же польские костюмы!» — дзівавалася глядачка злева ад мяне). Выйшаў сам «князь» у чырвоных ботах, сеў на трон. Паказаліся княжыч з княжною ў бела-залатых строях... Рыцары пастукалі мячамі аб мячы, лучнікі пусцілі колькі стрэлаў у мішэні... Але ж — Еўропа! Подых гісторыі! Грунвальд, Шведская вайна, касцюшкаўцы, пасіянеры Каліноўскага... (Толькі, Божа літасцівы, ну, нашто традыцыйная даніна сучаснасці ў выглядзе разрэзаў да пояса ў сукенках «Чароўных Паннаў» — хіба паказаць іх не надта маладыя ножкі...)






Не абышлося без афіцыйнай часткі. На свята прыехалі дарадца Прэзідэнта, намеснік міністра культуры і друку, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама, афіцыйныя госці з Расіі, Украіны... Спякота паспрыяла незацягнутасці прамоў. Тым больш, факты гаварыліся агульнавядомыя — няма сродкаў, каб адрэстаўраваць замак, няма сродкаў, каб належным чынам падтрымаць нацыянальную культуру ўвогуле... Але факт праўдзення дадзенага свята ацэньваецца станоўча.

Заскакалі народныя танцы, заспявалі народныя песні ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці — з сельскіх клубаў, дамоў культуры... Паўсюдна ў кіёсках прадавалі харчовыя тавары і вырабы народных умельцаў (кошыкі, посцілкі, збаны і да т.п.). Што праўда, усё было надта ж дорага. Прынамсі, для беднай творчай інтэлігенцыі... А ў замак нікога не пускалі. Дарэмна прасіліся шматлікія прыезджыя, каб хоць дзецям дазволілі паглядзець... Уваход урачыста перагарадзілі алебардамі вартаўнікі. А перад імі — зусім не тэатральныя амапаўцы. Спярша не пускалі таму, што ў замку пераапраналіся артысты, пасля — таму, што ў замку атабарылася, пакончыўшы з прамовамі, «начальства»... Таксама класічнае было відовішча — бязродныя васалы перад княскай рэзідэнцыяй... «Прапусціце, паночку!..»

Але народ не сумаваў. Хочаш — слухай прыпеўкі, хочаш — таньчы, хочаш — купляй у разліў спіртныя напоі... А для жадаючых экзотыкі — рыцарскія баі... Перад замкам бялеў шацёр. На штандары красаваўся надпіс — «Alter ego». Так выглядала «рэзідэнцыя» Клуба рыцараў з Менскага палаца моладзі. Герольд выклікаў рыцараў на двабой, пасля прысуджаў аднаму з іх перамогу. Любы жадаючы мог памерацца сіламі з пераможцам... І жадаючыя знаходзіліся. Бойка была сапраўднай, хаця і на драўляных мячах. Пралівалася кроў, натоўп гледачоў імкліва разбягаўся пад націскам апанаваных жарсцяй бойкі вояў.



Пажылы міранін, не верачы залітым танным півам вачам, доўга назіраў за бойкай: «Братка ты мой! Гэта ж такая даўніна! Так-кая даўніна-а...» І паваліўся, небарака... Мусіць, ад узрушання... Гандлявалі сваімі вырабамі навучэнцы Мірскай рэстаўрацыйна-мастацкай вучэльні. Тут і традыцыйная мірская кераміка, і пляценне з саломкі, і мудрагелістая чаканка... Паказвалі там і сапраўдную беларускую батлейку. Як расказалі мне маладыя «артысты», яны займаюцца ў тэатральнай студыі вучэльні, якая так і завецца — «Батлейка». Кіруе студыяй Галіна Жыровіна... Прыемна было чуць ад маладых хлопцаў і дзяўчатаў добрую беларускую мову. Увогуле, яе было чуваць паўсюль. І ад прадаўшчыц у фірмовых халаціках, і ад тутэйшых жыхароў, і ад прыезджай маднячай моладзі...

А між тым свята набліжалася да лагічнага завяршэння, запланаванага на дзесяць гадзін вечара. На беразе возера, выкапанага па загаду аднаго з уладальнікаў замка на месцы ссечанага ў квецені саду (і таму возера лічыцца праклятым — штогод у ім мусіць патанаць чалавек), нарыхтоўвалі дровы для вогнішчаў... Хто хацеў — назагараўся, накупаўся, хто хацеў — натанцаваўся, хто хацеў — напіўся...

Дзённая спякота спадала. Бел-чырвона-белыя сцягі хаваліся ў футаралах. Аўтобусы ад'язджалі ў бок Менска. У аўтобусе Фонду культуры, у якім ехала і аўтарка гэтых нататак, таксама былі і бел-чырвона-белыя сцягі, а яшчэ — «цыганскі кароль» і рэжысёр свята Уладзімір Макарцоў, і... палена, якое ўвішная супрацоўніца фонду падабрала на тэрыторыі Мірскага замка і ўзяла на яго аўтографы ў прысутных там, галоўным чынам, амапаўцаў, дзеля будучага «фондаўскага» музея. Кабетка па гучнагаварыцелі з энтузіязмам зачытвала пранікнёныя запісы:

Прекрасен Мир ты, будь здоров!

Большой привет вам от ментов.

Аж пакуль з «галёркі» аўтобуса, дзе згрупавалася «бел-чырвона-белая» моладзь, не прыйшоў літаратар з прапановай выкінуць «расійскамоўнае» палена праз фортку... Канфлікт вычарпаўся на тым, што літаратару прапанавалі зрабіць свой надпіс. Палена прыкрасілася выслоўем пра трыадзінства, якое замацавана сімвалам Пагоні, касцюшкаўцамі і каліноўцамі — «Бог, Айчына, народ». Што «фондаўская» кабетка адразу пераклала: «Бог, Отечество, народ». Прекрасный лозунг. Кто б это ни был — Народный Фронт или просто люди — ура, товарищи!»



Аўтобус уехаў у дождж. Над дарогай, як рыцарскія мячы, скрыжоўваліся маланкі. А ў аўтобусе працягвалася свята. «На галёрцы» спявалі беларускія песні. Наперадзе, сярод «фондаўскіх» кабет, мусіраваліся пытанні накшталт «Эта речка не Нёман, а Неман. Это у вас нет Немана, а у нас — есть!» (?!), «Мы, белорусы, всегда были самые добрые. И не надо нам никакой агрессивности». Урэшце, кабетка з паленам зноў авалодала гучнагаварыцелем і прапанавала паслухаць у яе выкананні «хорошую студенческую песенку». На што з «галёркі» з'явіўся мужчына і папрасіў энтузіястку «мець гонар памаўчаць», бо моладзь ужо пяе добрыя беларускія песні. Тады Уладзімір Макарцоў, як галоўны рэжысёр і сцэнарыст свята, прафесійна праспяваў песні, прысвечаныя сённяшнім падзеям («Люблю Карэлічы і Мір») ды мінулагодняму святу ў Друцку, што было з ухвалою ўспрынята і «галёркаю», і «партэрам». Дасягнуты «кансэнсус» змацавалі традыцыйнымі напоямі...



Аўтобус прамінуў зону навальніцы. Неба за вокнамі прасвятлела. Бывай, старажытны Мір! Бывай, замак! Мы любім цябе, шануем цябе... Няхай ты не пусціў нас сёння ў свае прахалодныя сходы...

Хаця — прабач — гэта зрабіў не ты.

**Людміла ШНІП.**
Менск — Мір — Менск.

# Гавораць удзельнікі Другога Міжнароднага кангрэса беларусістаў.

## Прафесар Джым ДЫНГЛІ (Англія)

Акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, выкладчык беларускай мовы і гісторыі ў Лонданскім універсітэце

**— Спадар Дынглі, Вы — вядомы ў навуковых колах Англіі і на маёй Бацькаўшчыне прыхільнік і папулярызатар беларускай культуры. Адкажыце, калі ласка, на традыцыйнае пытанне: «Калі і пры якіх абставінах Вы сталі беларусістам»?**

— Любоў да Беларусі і да беларускай культуры я пераняў ад вашага суродзіча айца Надсана, калі яшчэ працаваў у Брытанскай нацыянальнай бібліятэцы. Вось ужо 25 гадоў, як я з ім працую над рознымі праектамі ў галіне беларусістыкі, вядома, на сваёй уласнай навуковай дзялянцы.

**— Хто яшчэ з беларусістаў працуе ў Англіі?**

— Доктар Пітэр Мэйо з Шэфілдскага універсітэта. На жаль, ён не змог прыехаць на кангрэс, бо мае абавязкі перад студэнтамі, якія здаюць экзамены. Я таксама супрацоўнічаю з прафесарам Арнольдам Макмілінам, які працуе ў тым жа Лонданскім універсітэце, што і я.

**— А з кім супрацоўнічаеце на Беларусі?**

— Галоўным чынам з прафесарам Адамам Мальдзісам і яго Скарынаўскім цэнтрам.

**— Ці прыбавілася ў Англіі беларусістаў у апошні час?**

— Я гэтага не заўважаю. На курс беларускай мовы і гісторыі студэнты і аспіранты ідуць неахвотна. Мой асноўны занятак — падрыхтоўка бібліяграфіі да ўсіх выданняў па беларускай мове і беларусістыцы наогул. У гэтым годзе працаваць стала складана, бо мы перасталі атрымліваць з бібліятэкі АН Беларусі літаратуру, агаворанную ў нашым сумесным пагадненні. Мы трацім велізарныя сумы грошай, каб набыць патрэбную літаратуру для акадэмічнай бібліятэкі Беларусі, а ўзамен нічога не атрымліваем. Таму я думаю, што гэтым пагадненням прыходзіць ужо канец.

**— На жаль, гэта сведчыць аб тым, што наша дзяржава не зацікаўлена ў развіцці замежнай беларусістыкі.**

— Я разумею, што ў вас няма грошай на пошту, але тады трэба так і сказаць, што не можаце датрымліваць пагадненне.

**— Каб гэта была толькі адна наша бяда. Як бачыце, у нас адбыўся рэферэндум, які многае змяніў. Змянілася наша сімволіка...**

— А дазвольце спытаць: «Хто яе змяніў? І ці тыя, хто галасаваў «за», могуць лічыць сябе беларусамі?»

**— Я сама шукаю адказ на такое пытанне. А паколькі рэферэндум — падзея палітычная, то як яе можна ацаніць з боку замежнага грамадзяніна?**

— Першае пытанне да вас: «Ці адбыўся рэферэндум паводле вашых законаў?» Другое пытанне: «Ці падлік галасоў быў праведзены паводле вашых законаў?». Бо законы гэтыя ёсць. Іх можна прачытаць. Іншая справа, калі яны існуюць ды на іх не зважаюць. А што можна рабіць у такіх варунках, на гэта я не адкажу.

**— Вы ўхіліліся ад ацэнкі падзеі — таго, што ў нас адбылося.**

— Я добра ведаю, што у вас адбылося. Тое, што адбылося з нацыянальным сцягам над палацам Прэзідэнта, — гэта дзікунства. Іншага слова не падбярэш. Што да рэферэндуму, то думаю, што людзі, якія прагаласавалі «за», чацвёртага пытання папросту не зразумелі. Бо гэта вельмі небяспечная справа, калі Прэзідэнт мае такую ўладу над парламентам. Калі ён стаіць фактычна над Канстытуцыйным судом.

**— Чаго, у такім разе, варты наш народ?**

— Ён занадта ціхі. Чаму няма зацікаўленасці Беларуссю за мяжой? Бо яе лічаць прыдаткам Расіі. Іншая справа — Украіна. У нашых навучальных установах зараз назіраецца вялікі наплыў студэнтаў на курсы ўкраінскай мовы. Украіна ўспрымаецца як моцная і вялікая незалежная дзяржава ў Еўропе, якая адыгрывае і будзе адыгрываць важную ролю ў будучыні ўсяго свету. Але не Беларусь.

**— Ваша ўражанне ад кангрэса?**

— Як любы кангрэс спецыялістаў — гэта вялікая і паважная з'ява ў жыцці навукі, калі сустракаюцца вучоныя і гавораць пра ўласныя праблемы, пра ўласныя даследаванні. Канешне, праводзіцца гэты кангрэс у досыць сумны момант, і гэта кожны з яго ўдзельнікаў адчуў на сабе. Але ж трэба працаваць усё роўна: Беларусь існуе, беларуская культура існуе, як ніяк — яна частка агульначалавечай культуры, так што трэба займацца гэтай культурай. І трэба змагацца з псеўданавукай. Трэба яшчэ раз сказаць голасна, і вельмі голасна, тым людзям, якія прызнаюць беларускую мову занадта беднай, каб карыстацца ёй у навуцы, што гэтыя іх сцвярджэнні — лухта. Можна карыстацца любой мовай — трэба толькі хацець і ўмець. Іншыя погляды — гэта псеўданавука, гэта ўжо палітыка.

**— Спадар Дынглі, Вы ведаеце польскую, расійскую, украінскую і іншыя мовы. Што між гэтых моў-сёстраў азначае беларуская?**

— Няма такога паняцця, як горшая мова або лепшая. Усе мовы роўныя.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

## Прафесар Бідэр ГЕРМАР (Аўстрыя)

Гэтаму аўстрыйскаму славісту, выкладчыку Зальцбургскага універсітэта веданне еўрапейскіх моў — французскай, англійскай, балгарскай, сербахарвацкай, расійскай, польскай, чэшскай, беларускай і ўкраінскай дазваляе працаваць у розных кірунках мовазнаўства і весці даследаванні ў шырокім параўнальным дыяпазоне. Шмат работ прысвяціў старабеларускай мове XIV—XVII стст. і праблемам сучаснай беларускай мовы.

**— Прафесар Бідэр, як Вы, вядомы ў свеце вучоны-славіст, сталі беларусістам і калі гэта адбылося?**

— Я — беларусіст-самавук. Вышэйшую адукацыю па славістыцы атрымаў у Венскім універсітэце, дзе вывучаў расійскую, польскую, балгарскую, сербскую філалогію. Потым сам расшырыў навуковыя інтарэсы на беларусіку. Тэксты на беларускай мове чытаю з дваццаці гадоў, а пачынаючы з 70-х амаль рэгулярна чытаю спецыяльную навуковую літаратуру. Праўда, моўнай практыкі не маю, таму гавару па-беларуску не надта добра.

**— Калі Вы ўступілі ў Міжнародную асацыяцыю беларусістаў?**

— Напачатку яе ўтварэння, у 1991 г.

**— Хто яшчэ з беларусістаў працуе ў Аўстрыі?**

— У Зальцбургу — перакладчык і гісторык беларускай літаратуры Фердынанд Нойрайтэр, аўтар двухмоўнага Мюнхенскага выдання беларускай літаратуры. Ён, дарэчы, выступаў на кангрэсе. А ў Вене працуе малады мовавед Міхаэль Муозер, які таксама займаецца праблемамі беларусістыкі і з'яўляецца сябрам МАБ.

**— Ці паўплывала на Вашу навуковую дзейнасць беларускае Адраджэнне?**

— Адраджэнне дало мне магутны імпульс для яшчэ больш шырокай і паглыбленай працы. Ад пачатку дзевяностых гадоў я апублікаваў шэраг работ па праблемах беларускага мовазнаўства і моўнай сітуацыі на Беларусі. Адна з іх, амаль на пяцьдзесят старонак, называецца так: «Першае і другое адраджэнне беларускай мовы і культуры». Першае — гэта пачатак XX ст., другое — новае адраджэнне дзевяностых гадоў. Шмат разоў выступаў з дакладамі па пытаннях сацыяльнай лінгвістыкі, на тэму развіцця нормы беларускай мовы, яе адраджэння і моўнай сітуацыі вакол яе.

**— Дзе Вам даводзілася выступаць па праблемах беларусістыкі?**

— Найбольш у Германіі: у Патсдамскім універсітэце, на канферэнцыі германска-беларускіх гісторыкаў непадалёку ад Франкфурта, на нямецкім з'ездзе славістаў у Лейпцыгу. Я там ахарактарызаваў розныя сацыялінгвістычныя аспекты развіцця беларускай літаратурнай мовы. Мае адбыцца канферэнцыя ў Аўстрыі (Інсбрук), дзе я прачытаю даклад аб перспектывах беларускай літаратурнай мовы — розных тэндэнцыях русіфікацыі, паланізацыі і беларусіфікацыі нормы.

**— Ваша ўражанне ад рэферэндуму, які толькі што адбыўся на Беларусі?**

— Скажу, што беларускай мове пагражае заніканне. Мне здаецца, што беларусізацыя фактычна ўжо скончылася, прынамсі, у палітычных адносінах, і што ўся патрыятычная інтэлігенцыя павінна змагацца за прадаўжэнне адраджэння беларускай літаратурнай мовы. Мне ўвогуле незразумела: як народ можа галасаваць супраць уласнай мовы! Думаю, што гэты народ стаў аб'ектам маніпуляцыі з боку палітычнага кіраўніцтва. Лічу, што гэта падзея вельмі трагічная, проста чорны дзень у гісторыі беларускага народа.

**— Паражэнне нашага Адраджэння, на Вашу думку, канчатковае?**

— Я так не лічу. Спадзяюся на тое, што ўсё-такі свядомая інтэлігенцыя будзе далей змагацца за свае правы, за сваю мову і за сваю культуру. Толькі традыцыйны націск з боку суседскіх моў — польскай і расійскай — будзе працягвацца і, магчыма, стане яшчэ мацнейшым.

**— Хто Вашы сябры на Беларусі?**

— О, іх вялікая колькасць! Гэта і Леў Шакун, і Генадзь Цыхун, і Адам Мальдзіс, і Іван Крамко, і Анатоль Аксамітаў. У мяне шмат кантактаў з беларускімі навукоўцамі — і гэта ўжо з сямідзесятых гадоў, з часу, калі два месяцы стажыраваўся ў Акадэміі навук Беларусі ў прафесара Жураўскага.

**— На жаль, Жураўскі ведаеце што зрабіў?**

— Ведаю. Ён прадстаўнік іншага лагера і выступіў супраць нацыянальнай сімволікі. А супраць мовы ён таксама выступіў?

**— Мне толькі вядома, што спадар Жураўскі падтрымаў рэферэндум, ініцыіраваны Прэзідэнтам РБ. Вашы ўражанні ад Міжнароднага кангрэса беларусістаў?**

— Як кіраўнік чацвёртай секцыі «Моўныя і літаратурныя кантакты» лічу, што ён праходзіць на вельмі высокім навуковым узроўні. Я праслухаў шмат дакладаў і вельмі задаволены. Усе яны глыбокія, сур'ёзныя, прынамсі, па мовазнаўству, разнастайныя тэматычна. Так званы глотагенез беларускай мовы, праблемы выдання і вывучэння пісьмовых помнікаў, праблемы развіцця сучаснай літаратурнай мовы, нормы літаратурнай мовы, праблемы анамастыкі і вывучэння беларускіх гаворак і інш.

**— І Вам гэта ўсё было цікава?**

— Цікава.

**— Такая мова, як наша, чаго яна заслугоўвае?**

— Заслугоўвае апекі, пашаны, далейшага развіцця ва ўсіх сферах жыцця грамадства.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

GEORG MAYER

ZUM 60. GEBURTSTAG

HERAUSGEGEBEN VON

URSULA BIEBER UND ALOIS WOLDAN

*Sonderdruck*

*(Sagners Slavistische Sammlung. Band 16.)*

Для заслужанай газеты «Наша слова» якая змагаецца за адраджэнне роднай мовы і культуры беларускай.



Менск, 18. V. 1995

VERLAG OTTO SAGNER

München 1991

Herman Bieder

**На здымку:** Тытульны ліст кнігі з даравальным надпісам Германа Бідэра.

# Чачня: чаму маўчыць Аляксандр Салжаніцын?

Вось ужо больш за паўгода Расія ваюе з маленькай Чачнёй, якая захацела незалежнасці. Нарэшце ўстрывожылася ўсур'ёз нават Дзяржаўная дума Расіі, якая пару месяцаў таму дружна лаяла тых сваіх дэпутатаў, якія рашуча адстойвалі правы чалавека, у тым ліку на жыццё. Успомнім Сяргея Кавалёва, якога цяпер вылучаюць на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру. Дума практычна аднагалосна (толькі адзін дэпутат устрымаўся) прыняла зварот да Прэзідэнта Расіі і Вярхоўнага галоўнакамандуючага Барыса Ельцына, дзе заклікала кіраўніка дзяржавы нарэшце спыніць ваенныя дзеянні ў Чачні. У звароце, у прыватнасці, адзначаецца, што «агульныя чалавечыя страты за гэтыя паўгода вайны ў два разы перавысілі расійскія страты за дзесяць гадоў вайны ў Афганістане»(!). Пра тое, што было знішчана каля мільёна афганцаў, не згадваецца, «за цаной» у чужых чалавечых жыццях імперыя, як вядома, ніколі «не стаяла». На вялікі жаль, Барыс Ельцын, здаецца, лічыць, што спыняць гэтую чалавечую мясарубку «еще рано».

Тым часам дэмакратычная грамадскасць Расіі актыўна змагаецца, каб ганебную бойню спыніць. Многія дзівяцца, што чамусьці маўчыць вялікі рускі пісьменнік Аляксандр Салжаніцын. Вядомая пісьменніца-публіцыстка Вольга Чайкоўская звярнулася да яго з адкрытым лістом. Салжаніцын зноў прамаўчаў, і пісьменніца яшчэ раз праз «Литературную газету» (№ 22, 95) напамінае аўтару «Архіпелага ГУЛАГ» і стваральніка вобразаў рускіх праведнікаў Матроны і Івана Дзянісавіча, якія сталі ахвярамі бальшавіцкай сістэмы, што маўчанне ў такой справе ў ягоным статусе можа некаму падацца як «знак згоды» з імперцамі. «Я ніяк не магу пазбавіцца дзіўнага ўражання, — піша ў сваім адкрытым лісце Вольга Чайкоўская,– быццам пасярод тысяч непавінных, што гінуць у Чачні, усё зноў і зноў гінуць таксама Іван Дзянісавіч і Матрона. А ў Чачні ж на людзей наехалі, наваліліся не цягнік і не расійскае разгільдзяйства (неахоўваемы пераезд), а гіганцкая ваенная машына па злому бесаўскаму разліку...

Пра Вашу пазіцыю, — працягвае Вольга Чайкоўская, — зараз многія гадаюць, некаторыя (відаць, спрабуючы Вас апраўдаць) кажуць: ён дзяржаўнік, яму важная не Чачня, а Расія. Але ж «чачэнская аперацыя» — з'ява ўвачавідкі агульнарасійская, агульнарасійскае зладзейства (гіне моладзь з усіх канцоў Расіі). Дзяржаўнік? Усе мы дзяржаўнікі, — піша Вольга Чайкоўская, — каму не хочацца, каб твая краіна была моцнай?!.. Але ж дзяржаўны дзеяч, які мяркуе, быццам дзеля «моцы і цэласнасці» можна забіваць дзяцей, — гэта не дзяржаўнік, не дзеяч і ўвогуле не чалавек, а вурдалак. І яшчэ, — заўважае пісьменніца, — моцная дзяржава стаіць на непарушнай прававой апоры, а дзеянні, на якія асмеліліся расійскія ўлады, — гэта суцэльны прававы цынізм. Расійскія бомбы разбураюць расійскую Канстытуцыю і падмурак расійскай дзяржаўнасці (мы ўжо не кажам пра тое, што вайна гэтая — разор расійскай эканомікі)...»

Аўтар прыводзіць далей жудасныя падрабязнасці забойства дзяцей расійскімі вайскоўцамі. Але, здрыгануўшыся і перахрысціўшыся, мы павінны падумаць яшчэ і пра тое, як лёгка можна прадаць незалежнасць народа за міску поліўкі ці бочку нафты і колькі жыццяў, колькі чалавечых пакут каштуе здабыць тую незалежнасць. А здабываць яе ўсё роўна ж нехта будзе, бо так наканавана Богам.

**Ул.АС.**

Мікалай КРЫЎКО – беларушчына.
Алена ШЧУКА – англійшчына.

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАПАЛО́Х** і **ПЯРЭ́ПАЛАХ** (стан хвалявання, разгубленасці, трывогі некалькіх, многіх людзей пад уплывам чаго-н., а таксама іх паводзіны) *У зале падняўся такі перапалох, як быццам наступіў канец свету* (Скрыпка). *Залп у цэнтры абоза падняў яшчэ большы перапалох і хаос* (Колас). *Рабцэвічу зрабілася няёмка за пярэпалах, што нарабіў ён сваім прыходам* (Мехаў). *Назіральнік, прыбегшы з азёрнага берагу, паведаміў: у вёсцы пярэпалах, падобны на трывогу* (Хадкевіч), **СПАЛО́Х** і **СПО́ЛАХ** *Жанчыны — ў голас, узнялі спалох, Пачуўшы, што склікае сваякоў Гарыдавец* (Танк). *Прыйшлося за імі [птушкамі] бегаць, ганяцца, падняўся шум, гвалт, ад гэтага яшчэ большы спалох* (Маўр). *Сполах... Крыкі... Страляніна... Стогны...* (Бядуля). *У хаце сполах, перапуды, Усё трасецца і дрыжыць* (Колас), **ЗБЯНТЭ́ЖАНАСЦЬ** *Нават зводдаль няцяжка было заўважыць яе [Джуліі] спалох і збянтэжанасць* (Быкаў), **ПА́НІКА** (стан і паводзіны мноства людзей, раптоўна ахопленых неадольным страхам пад уздзеяннем сапраўднай або ўяўнай небяспекі) *У сяле трашчалі выстралы і матацыклы, мітусіліся, бегаючы ўзад і ўперад, салдаты і паліцаі... Паніка ў варожым стане была ў поўным разгары* (Якімовіч). *Паніка, мітусня, суматоха паднялася ў абозе* (Колас). — *Параўнайце:* Спало́х, 1. Страх.

**Перапалох.** У англійскай мове мы таксама знаходзім некалькі сінонімаў, усе з якіх былі пазычаныя з іншых моваў: **alarm** (<франц.), **commotion** (<франц.), **panic** (< лац.). Пры гэтым даволі цікавую гісторыю мы назіраем у слова *alarm*, якое было спачатку пазычана французскай мовай з італьянскай і ўжывалася як заклік «да зброі!»

**ПЕРАПІ́ЦЬ** (выпіць лішняга) *На Вялікдзень дазвалялася піць, колькі хто можа. Калі ж хто і перап'е, таго не судзілі* (Колас). *То ў яго [Канапелькіна] на той раз забаліць жывот, то зашчэміць у грудзях, то перап'е і спіць, што разбудзіць нельга* (Беркутаў), **ПЕРАБРА́ЦЬ** размоўнае *Сам гаспадар здорава перабраў і, не распранаючыся, зваліўся ў ложак* (Сіняўскі). *Панёс [бацька дачку] аднаго разу на хрэсьбіны ў Капылы, да аднаго далёкага сваяка. Перабраў там крыху, і па дарозе дадому спатыкнуўся, выпусціў дзяўчынку з рук* (Кулакоўскі), **ПЕРАХАПІ́ЦЬ** і **ПЕРАХВАЦІ́ЦЬ** разм. *[Баркевіч:] — Учора на развітанне перахапіў крыху. Пахмяліцца трэба, а адзін піць не магу* (Шашкоў). *Учора так перахваціў, што і сягоння яшчэ цёмна ўваччу,* **ХАПІ́ЦЬ** і **ХВАЦІ́ЦЬ** разм. *[Мікіта:] — Нешта яшчэ казала [Феня], але я так моцна хапіў, што нічога не помню...* (Ракітны). *У важнага Мядзведзя, На гасцявым абедзе Хапіў залішне Леў, Сп'янеў* (Корбан). *Дзе ўжо гэтак хваціў, што ледзь дамоў паўзеш?* **ПЕРАБРА́ЦЬ МЕ́РУ** *Мабыць, «прымкнуў» [Тхорык] да некага, як быў у магазіне, ды трохі перабраў меру* (Кулакоўскі). — *Незакончанае трыванне:* **Перапіваць, перабіра́ць, перахо́пліваць і перахапляць, перахва́тваць, перабіра́ць ме́ру.** — *Параўнайце:* Выпіць, 2—3. Піць.

**ПЕРАПО́НКА** (тонкая плёнка, якая з'яўляецца перагародкай ці абалонкай у жывым арганізме; часцей — пра плавальную перапонку) *Хоць і няма на лапках у вадзяной курачкі перапонак, але плавае і нырае яна не горш за качку* (В.Вольскі). *У палятухі — «сваячкі» вавёркі — паміж пярэдняй і задняй лапамі ўтварылася перапонка, якая дапамагае ёй пералятаць з дрэва на дрэва* (Гавеман), **ПЛЕ́ЎКА** *Пальцы задніх ног [у баброў] злучаны плеўкай, як у гусей* (Маўр).

**ПЕРАПРА́ВА** (месца, дзе пераправаўляюцца або пераплываюць на чым-н. на другі бераг ракі, возера і пад.) *Звярнуўшы налева, аўтобус стаў у доўгую чаргу машын каля пераправы* (Грахоўскі). *На поўначы, каля брыгаднай пераправы на Нёмане, разгарэлася кулямётная траскатня* (Брыль), **ПЕРАВО́З** *Прыціх натоўп на перавозе: шафёры, цеслі, рыбакі* (Вялюгін). *Далёкі гром маёвы грукнуў, Дзяўчо ляціць на перавоз. Што перавоз, калі ёсць рукі? І ён узяў дый перанёс* (Семашкевіч).

**Пераправа.** Англійскія сінонімы ў гэтым выпадку **crossing** і **ford**. Апошні ўжываецца, калі *пераправаўляюцца ўброд.* У адрозненне ад першага з пазычаным коранем, *ford* — слова старажытнае і ўвайшло ў шэраг тапонімаў як, напрыклад, славуты Оксфорд (Oxford), што першапачаткова азначала «бычыны брод».

# Беларуская мова — мова навукі

## Другая Тэрміналагічная канферэнцыя: мэты дасягнутыя

*(Гутарка са старшынём Тэрміналагічнай камісіі ТБМ, старшынём Аргкамітэта Першай і Другой нацыянальнай Тэрміналагічнай канферэнцыі, кандыдатам біялагічных навук Язэпам Стапановічам)*

*У Другой нацыянальнай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» ўзялі ўдзел звыш ста навукоўцаў і выкладнікаў з усіх ВНУ нашай краіны, а таксама тэрмінолагі з Польшчы, Англіі, Славеніі, Расіі, Летувы, Украіны, у тым ліку 27 дактароў і каля 60 кандыдатаў навук.*

**— Як вядома, ініцыятарам і адным з арганізатараў Першай нацыянальнай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі», што прайшла летась 4—6 траўня, была Тэрміналагічная камісія ТБМ імя Ф.Скарыны. Мінуў усяго год пасля яе. Тэрмінатворчасць і тэрмінаграфія — складаныя і далікатныя сферы чалавечай дзейнасці ды яшчэ ў нас на Беларусі, ва ўмовах няпростага сучаснага перыяду нацыянальна-культурнага адраджэння. Што паспелі зрабіць беларускія тэрмінолагі за гэты кароткі час? Што яны прывезлі на абмеркаванне Другой Тэрміналагічнай канферэнцыі?**

— Другая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» адбылася 18—19 траўня сёлета ў Менску ў Доме настаўніка. Яна была запраграмавана летась самой назвай: Першая Тэрміналагічная канферэнцыя. Значыць, мусіла быць і Другая і будзе, хочацца верыць, Трэцяя і г.д. А часовы прамежак паміж імі вызначылі ўдзельнікі першай канферэнцыі, пастанавіўшы зрабіць падобныя шырокія абмеркаванні праблемаў беларускай навуковай тэрміналогіі штогоднімі. Правядзенне Другой канферэнцыі таксама ініцыявала Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускай мовы, а ладзіла супольна з Міністэрствам адукацыі і навукі, Міністэрствам культуры і друку, Акадэміяй навук Беларусі і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны. Ад пачатку мы, сябры камісіі, добра ўсведамлялі, што ідэю правядзення нацыянальных тэрміналагічных канферэнцыяў можна рэалізаваць на належным узроўні і вынікі іх шырока распаўсюдзіць у грамадстве толькі шляхам агульных намаганняў грамадскіх і дзяржаўных навукова-асветніцкіх структур, як бы мы да іх ні ставіліся. Асабліва ў нашай бядотнай эканамічнай і палітычнай сітуацыі. З улікам розных водгукаў аргкамітэтам канферэнцыяў гэта някепска ўдалося. Галоўнае — змест. Мэты ставіліся рэальныя. І яны дасягнутыя. Калі на Першай канферэнцыі было асноўным рэвізаванне ды аналіз сучаснай тэрмінатворчай і тэрмінаграфічнай (укладанне слоўнікаў, даведнікаў, напісанне падручніка) працы на Беларусі, то на Другой ужо ставілася пытанне выпрацоўкі агульных падыходаў да тэрмінатворчасці і спарадкавання тэрміналагічных адзінак у розных галінах навукі, тэхнікі, народнай гаспадаркі і культуры на падставе аналізу айчыннага і замежнага тэрміналагічнага досведу. Мусіць, сапраўды занадта хутка мы склікалі чарговую канферэнцыю. Былі і ў нас сумнівы ў прадстаўнічасці ўдзельнікаў. Але стрымоўным фактарам удзелу з'явіліся не недахоп ідэяў, досведу, меркаванняў (з дзесятак паведамленняў, дасланых Аргкамітэту дзеля завочнага азнаямлення на прадмет далейшага апублікавання), а адсутнасць сродкаў на паездку ў Менск, таксама запозненая інфармаванасць. Нягледзячы на гэтыя ды іншыя акалічнасці, у Другой нацыянальнай канферэнцыі ўзялі ўдзел звыш ста навукоўцаў і выкладнікаў з усіх ВНУ нашай краіны, а таксама тэрмінолагі з Польшчы, Англіі, Славеніі, Расіі, Летувы, Украіны, у тым ліку 27 дактароў і каля 60 кандыдатаў навук. Праца канферэнцыі ладзілася ў форме пленарнага і секцыйных паседжанняў. Усяго заслухана і абмеркавана 67 дакладаў і спавешчанняў. У параўнанні з леташнім кантынгент удзельнікаў сёлетняй канферэнцыі значна абнавіўся і... памаладзеў. І на маё ўражанне, даклады атрымаліся больш змястоўныя, узбагачаныя прыватнымі прыкладамі з практыкі беларускамоўнага выкладання розных навуковых дысцыплін і ўкладання спецыяльных слоўнікаў. За мінулы пасля Першай канферэнцыі год апублікаваны шэраг тэрміналагічных слоўнікаў, падручнікаў для сярэдняй і вышэйшай школ. Яшчэ больш здадзена іх рукапісаў у выдавецтвы. Зфармаваны тэрміналагічныя калектывы ва ўсіх сучасных галінах ведаў. Асабліва плённа працуюць над укладаннем галіновых слоўнікаў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (у прыватнасці, спадарыні Зяньковіч і Скікевіч, Станіслаў Суднік з Ліды, Станіслаў Ярашэвіч з Менскага медінстытута, Лявон Латоцін з Магілёўскага педінстытута, у Беларускай політэхнічнай акадэміі Тамара Сухая, Рамаш Лядаховіч-Тамілін, у Віцебскім педінстытуце Уладзімір Слабін, Вольга Аранская, у Акадэміі навук спадары Васіль Бернік, Уладзімір Паўловіч, Эрнэст Ляўкоў і інш.). Выйшаў з друку «Тлумачальны руска-англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы» пад рэдакцыяй праф. Бузы. Надрукаваны зборнік матэрыялаў Першай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». Так што ўдзельнікі Другой тэрміналагічнай канферэнцыі былі з ладным багажом.

Пытанняў, што патрабуюць калектыўнага абмеркавання, у беларускай тэрмінатворчасці і тэрмінаграфіі, як паказалі ўжо дзве нацыянальныя канферэнцыі, досыць шмат. Іх хопіць нашым спецыялістам на гады. І справа не ў тым, што, як прадузята кажуць некаторыя палітыкі, наша мова «слаба распрацаваная», асабліва ў сферы навук. «Лухта гэта», — адказаў катэгарычна на Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў праф. Лонданскага універсітэта Джым Дынглі і затым пацвердзіў прыкладамі. Яшчэ ў свой час Адам Міцкевіч, каго таксама нельга залічыць да беларускіх нацыяналістаў, назваў нашу (ліцвінскую) мову адной з «найраспрацаваных, найгарманічных». Праблема ў сучасных беларускіх тэрмінолагаў перад усім, каб разабраць перад нашай мовай штучныя завалы, створаныя 200-гадовай каланіяльнай палітыкай гаспадароў краю, зняць з яе панцыр русіфікацыі, даць ёй мажлівасць развівацца і лексічна ўзбагачацца з дапамогай уласных словаўтваральных сродкаў. Патрэбна сістэмная інвентарызацыя беларускага нацыянальнага лексічнага запасу па розных навуковых кірунках.

**— А што прапанавалі беларускім тэрмінолагам замежныя ўдзельнікі?**

— Мы ўдзячныя ўсім дзесяці замежным спецыялістам, што выступілі з дакладамі альбо паведамленнямі. Іх выступы былі нам неабходныя і карысныя. З пункту гледжання параўнальнага досведу. У той жа летувіскай, польскай ці ўкраінскай тэрміналогіі ёсць ідэнтычныя нашым праблемы, цікавыя шляхі іх развязання, ёсць і асаблівасці. Пра гэта расказалі спадарыня Лілія Плыгаўка (Вільня), Мечыслаў Басай (Варшава), Ірына Карнэйка (Харкаў). Цікавы, у прыватнасці, досвед спалучэння пурыстычнай і міжнароднай уніфікацыйнай тэндэнцыяў у нацыянальнай тэрмінатворчасці. Павучальным для нас можа быць славенскі тэрміналагічны досвед, пра які дэталёва паведаміў сп.Сільво Торкар, навуковы супрацоўнік Славенскай Акадэміі навук і мастацтваў.

Карысны параўнальны аналіз тэрмінасістэмаў зрабіў доктар навук Дынглі з Лондана — з практыкі ўкладання ўкраінска-англійскага і беларуска-англійскага слоўнікаў юрыдычнай тэрміналогіі. Значную ўвагу спецыялістаў выклікалі даклады доктара навук сп.Кандрацюка (назвы айконімаў і гідронімаў Польска-Беларускага памежжа) і сп. Віткоўскага (беларуская вайсковая тэрміналогія ў параўнанні з расійскай і польскай) — абодва з Варшавы. Дарэчы, заўважыць: пераважная большасць выступаў замежных удзельнікаў зроблена на беларускай, і добрай, мове.

**— Параўнайце коратка стан развіцця навуковай тэрміналогіі на Беларусі з іншымі краінамі.**

— Цікавая рэч: як і ў грамадскім развіцці, мы маем падобную адметнасць — адставанне ад іншых еўрапейскіх краін — і ў галіне навуковай тэрміналогіі таксама ў сэнсе сучаснага ўзроўню спарадкавання, стандартызацыі тэрмінаў. Абедзве канферэнцыі засведчылі: у нас няма праблемы навуковай тэрміналогіі як такой. У нас багаты нацыянальны лексічны запас, пра што паведамлялі ў сваіх дакладах беларускія мовазнаўцы Павел Сцяцко, Алесь Каўрус, Віктар Красней, Алесь Крывіцкі і іншыя, пакуль няпоўна запатрабаваны. Няма нацыянальна-дзяржаўнай палітыкі ў гэтым пытанні. Вось дзе праблема! Дзяржаўны заказ апошнія гады быў з'явіўся і зараз паволі затухае. Зважаючы на вынікі праведзенага рэферэндуму, быццам і народу не патрэбна нацыянальнае адраджэнне. Але не. Тут далёка да адназначнай высновы. Хоць пэўны палітычны эфект дасягнуты. Адчувальна пахаладнела стаўленне да беларускай навуковай тэрміналогіі з боку адпаведных міністэрстваў і ўстаноў. Аднак тэрмінатворчы працэс ужо запачаткаваны і ідзе. Як і ў развітых краінах, у нас таксама ствараецца падобны дзяржаўны тэрміналагічны цэнтр. Ідзе фарміраванне тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і навукі. Напярэдадні Другой канферэнцыі падпісаны загад міністра В.Стражава пра яе стварэнне. Пакуль жа з красавіка сёлета функцыянуе тэрміналагічны аддзел камісіі, які ўжо на штатнай аснове каардынуе тэрміналагічную працу ў краіне. Дагэтуль фактычна дадзенай справай займалася тэрміналагічная камісія ТБМ. У яе энтузіязму хапала. Але далей так нельга. Навуковая тэрміналогія — дзяржаўная справа.

Спадзяюся, будзе і ў нас такі ж тэрміналагічны цэнтр, як у Любліне, Варшаве, Празе ці Львове і такое ж стаўленне да нацыянальнай мовы. Неабходныя прамыя кантакты Беларусі з міжнароднымі тэрміналагічнымі арганізацыямі.

**— І перад рэферэндумам вядома негарачае стаўленне нашых дзяржаўных структур да нацыянальнага адраджэння. Якую частку цяжару падрыхтоўкі да канферэнцыі ўсклалі на сябе названыя міністэрствы?**

— Фінансава — асноўную. На плечы (вобразна кажучы) Міністэрства адукацыі і навукі леглі выдаткі на арэнду памяшкання (хоць яно нібы сваё — Дом настаўніка) для канферэнцыі, пражыванне прыезджых удзельнікаў, друкаванне праграмы. Міністэрства культуры і друку цалкам прафінансавала выданне зборніка матэрыялаў Першай нацыянальнай тэрміналагічнай канферэнцыі. Дарэчы, зборнік ужо надрукаваны агульным накладам 400 асобнікаў. Стараліся прымеркаваць яго да канферэнцыі. На жаль, пошукі фундатараў затрымалі патрэбнае выданне. І тут наша ўдзячнасць спагадліваму міністэрству.

Меншыя, але сталыя выдаткі прымала на сябе Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны: друкаванне інфармацыйных лістоў, паштовыя выдаткі, папера, фармаванне кампутарнай базы звестак і інш.

Уся арганізацыйна-выканаўчая праца, як правіла, за ініцыятарам, г.зн. за Тэрміналагічнай камісіяй ТБМ.

**— Значыць, пастаўленая мэта канферэнцыі дасягнута? Што далей?**

— Важнейшыя пазіцыі Другой канферэнцыі сугучныя з вынікамі папярэдняй, а менавіта: па-першае, правамернасць і неабходнасць актыўнага засваення тэрміналагічнай спадчыны 20-х гадоў і шэрага кірункаў з тэрмінаграфіі 60-х гадоў, датычных найперш выкарыстання ўласнай нацыянальнай тэрміналагічнай лексікі.

Па-другое, паслядоўнае скасаванне неўласцівых беларускай мове суфіксальных -ір-, -ыр- у запазычаных, суфіксаў -см-, -уч-, -юч-, -ім-, -ым-, канчаткаў -ій-,

(Заканчэнне на с.7.)

ACADEMIA «NS»

# Збіраем матэрыялы для Крыўскай (Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

## Адбіткі міфаў у беларускіх фразеалагізмах

Даследаванне міфалогіі праз прызму мовы яшчэ толькі пачынаецца. Задача — выявіць міфы, якія ляжаць у аснове беларускіх фразеалагічных адзінкаў (фразеалагізмаў), устанавіць, як па меры замацавання міфалагічнай інфармацыі адлюстроўваліся ў беларускай фразеалогіі касмалагічныя, рэлігійныя, сацыяльныя і іншыя погляды народа. Тэарэтычнай асновай такога падыходу з'яўляецца меркаванне, што ў фразеалагізмах захаваліся міфалагічныя веды.

Фразеалагізмы, у семантыцы якіх можна прасачыць адбіткі міфаў, дзеляцца на 7 груп.

Фразеалагізмы, якія адлюстроўваюць фундаментальныя стыхіі светабудовы, — зямля, вада, агонь і інш.: *лажыцца ў зямельку, зямлі не чуць пад сабой, як зямля носіць, калом зямля, у гарачай вадзе купаны, брахаць на ваду, як вадой змыла, як пугай па вадзе, выводзіць на чыстую ваду, канцы ў ваду, каламуціць ваду, як на агні гарыць, як скурат на агні.*

Фразеалагізмы, якія ўтрымліваюць у сваім значэнні ўяўленне аб упарадкаванні свету (верх — ніз), а таксама рэлігійныя ўяўленні: *браць верх, як неба ад зямлі.*

Фразеалагізмы, у значэнні якіх чалавек успрымаецца як вяршыня тварэння Бога: *душой дакрануцца, душу іржа раз'ядае, дно душы, сэрцам і душой прыкуты, іскры душы, душа як лёд.*

Фразеалагізмы, якія адлюстроўваюць упарадкаванне грамадства, паводзіны ў грамадстве, адносіны да сям'і, дзяцей: *крывая вывязе, без роду-племені.*

Фразеалагізмы, у семантыцы якіх знайшлі адлюстраванне міфічныя істоты — чэрці, русалкі і інш.: *які чорт прынёс, баяцца як чорт крыжа, як чорт ад ладану, у чорта на рагах, чортава зелле.*

Фразеалагізмы, звязаныя з міфамі пра жывёл: *як рыба ў вадзе, нібы з гусі вада.*

Фразеалагізмы, у семантыцы якіх адлюстраваны бытавыя міфы: *рэдзьку сеяць, даць рэдзьчыну, даць гарбуза, калаціць зялёны мак, надакучыла як горкая рэдзька.*

На прыкладзе аналізу некалькіх фразеалагізмаў з выдзеленых груп пакажам, як трансфармуецца міф, замацоўваючыся ў значэнні фразеалагізма.

Так, вядома, што агонь — сімвал пераўтварэння і перараджэння, гэта «стыхія, якая дзейнічае ў цэнтры ўсіх аб'ектаў». Ён ахоплівае як добрае (жыццёвае цяпло), так і дрэннае (разбурэнне і спаленне). Гэта тлумачыць наяўнасць у беларускай мове фразеалагізмаў з кампанентам агонь як пазітыўнай, так і негатыўнай ацэнкі: *агні яго ведаюць, падкінуць агню ў хату* — з аднаго боку, і *як на агні гарэць* — з другога. Гэты міф падмацаваны ў беларускай культуры святам агню на Купалле, цягай да феерверкаў, запальваннем агнёў на навагодняй ёлцы, дзе агонь сімвалізуе ачышчэнне, знішчэнне сіл зла.

Не менш цікавы міф, звязаны з вадой, якая ёсць і пачатак, і канец усяго зямнога. Апусканне ў ваду азначае смерць, знішчэнне — з аднаго боку, і адраджэнне, узнаўленне, пачатак жыцця — з другога. Сімволіка хрышчэння цесна звязана з гэтым міфам: пры хрышчэнні з'яўляецца новы чалавек, набліжаны да Бога. Закладзеная тут энантыясемія тлумачыць наяўнасць у беларускай мове дзвюх груп фразеалагізмаў: *каламуціць ваду, вада не трымаецца, як у ваду апушчаны і вады не замуціць, як вадой змыла, выводзіць на чыстую ваду.*

Да першай групы фразеалагізмаў належыць і касмаганічны міф пра сусветнае яйка, з якога ўзнік сусвет. Касмаганічная функцыя сусветнага яйка суадносіцца з важнай роляй яек у каляндарных рытуалах, напрыклад, велікодныя яйкі. З гэтым міфам звязаны фразеалагізмы *ад яйка адліць, выедзенага яйца не варта* ды іншыя.

У аснове фразеалагізмаў другой групы з кампанентамі *верх* і *ніз* ляжыць уяўленне пра верхні і ніжні свет у міфалагічнай мадэлі сусвету. Гэта адно з асноўных супрацьпастаўленняў у мадэлі (побач з правым і левым, мужчынскім і жаночым, дабром і злом). Перамяшчэнні з верхняга свету ў ніжні і наадварот складаюць аснову шматлікіх міфалагічных матываў; багі спускаюцца на зямлю, падымаюць да сябе вартых і г.д. Адсюль фразеалагізмы *браць верх, як неба ад зямлі.*

У аснове трэцяй групы фразеалагізмаў ляжыць міф пра чалавека як вяршыню Божага тварэння, у якую Бог удыхнуў душу.

Яшчэ В.У.Вінаградаў заўважыў, што славянскія мовы ўзялі ад біблейскай міфалогіі вобраз пачуццяў як вадкасці, а перажыванне пачуццяў як кубак, з якога п'е чалавек. Адсюль фразеалагізмы *мора пачуццяў, дно душы, радасць уліваецца ў душу.* Лакалізацыяй пачуццяў для беларусаў з'яўляюцца сэрца і душа: *душа жадае, душа кіпіць, сэрца вон.* Схіленне перад вярхоўным паганскім боствам Родам і жаноцкім боствам Макашшу (Купалай) знайшло адлюстраванне ў сімволіцы не толькі прадметаў побыту, у вышыўках, амулетах-абярэгах, дэталях нацыянальнага касцюма славян, але і ў мовах гэтых народаў. Гэта язычніцкая мадэль свету славян застаецца «закадзіраванай» у цэлым шэрагу фразеалагізмаў, у прыватнасці з кампанентам *душа*, якім карыстаюцца і сённяшнія носьбіты мовы, тым самым пасвядома ўцягваючыся ў тую мадэль свету, увесь час ажыўляючы і ўзбагачаючы яе эмацыянальна. Тут мы маем на ўвазе вялікую групу фразеалагізмаў з кампанентам *душа*, у якіх закадзіраваны працэс нараджэння дзіцяці, яго розныя этапы: *уліваццa ў душу, закранаць душу, душа не прымае, адкрыць душу, выбіць душу, выцягнуць душу, выварочваць душу, класці душу, душа плача* і г.д. Душа — малое дзіця, гэты міф знайшоў адлюстраванне і ў іконапісу — Успенне Божай Маці, — і ў міфалогіі розных народаў.

Большая частка фразеалагізмаў чацвёртай групы таксама мае міфалагічную аснову. Напрыклад, фразеалагізмы з кампанентам *смех (і смех і грэх, не на смех, падымаць на смех, паміраць ад смеху, надрываць жываты ад смеху, паехаць ад смеху)* хаваюць у сваёй семантыцы забарону на смех. У хрысціянскай міфалогіі смяюцца смерць, д'ябал і іншая нечысць. Хрыстос жа ніколі не смяецца на працягу ўсёй Бібліі. Гэты вобраз пацвярджаецца і беларускім фальклорам — казкамі пра царэўну-Несмяяну.

Даволі вялікая і важная для разумення менталітэту беларусаў група фразеалагізмаў, якія звязаны з адносінамі да сям'і, дзяцей, таксама суадносіцца з міфалогіяй. У матрыярхальнай культуры галоўнае — кроўныя сувязі, сувязі з Зямлёй-мацеркай, мацеркай-Багіняй, жанчынай, якая прыродай адорана здольнасцю да стварэння. І.Бахофен пісаў: «Тая сувязь, якая ўпершыню падымае чалавецтва да цывілізацыі, якая служыць пачатковай кропкай развіцця ўсялякай дабрачыннасці... — гэта чараўніцтва мацярынства». Пры такім стане, калі жанчына — галава сям'і, адсутнасць мужчыны побач — заканамернасць. Пры пераходзе да патрыярхату і Хрысціянства, дзе свет і ўсё ў ім чыніцца словам, жанчына з яе здольнасцю тварыць больш не патрэбна. Адсутнасць бацькі пачала лічыцца ганебным недахопам (адсюль фразеалагізм *без роду-племені*).

Аналіз беларускіх фразеалагізмаў дазваляе зрабіць выснову, што міфалогія беларусаў даволі архаічная. Большая частка міфалагічных тэмаў, матываў і вобразаў добра суадносіцца з сусветным міфалагічным фондам, мае шматлікія аналогіі.

**Паводле В.МАСЛАВАЙ.**

МІНІ-РЭЦЭНЗІЯ

## Проста паэзія плюс...

Нярэдка між радкоў водгукаў на кніжкі паэтэс чытаеш думку, што жаночая паэзія бывае сапраўды жаночай і проста паэзія. Выказвацца пра першую цяжка, бо жаночае ўсё, вядома, адносіцца да сферы пачуццёва-эмацыянальнай. А паспрабуй сфармуляваць свае эмоцыі звычайнымі словамі на звычайнай паперы! Але — гаворка пра зборнік Вольгі Куртаніч «Начное сонца». Найперш — пра назву. Традыцыя паэтаў, распачатая не намі: выкарыстоўваць для назваў кантрасныя спалучэнні. Неба — зямное, снег — чорны, вышыня — нізкая, слодыч — горкая, ноч — сонечная, ну, а сонца, адпаведна, начное.

Паэзія Вольгі Куртаніч не патрабуе доказаў сваёй вартасці — бо гэта паэзія і вельмі жаночая, і вельмі паэзія. За ёй — асоба моцная, з філасофскім мысленнем і разняволенай фантазіяй.

Што найперш прыцягвае ўвагу пры прачытанні вершаў спадарыні Вольгі — мова. Напэўна, калі-небудзь укладанне слоўніка мовы паэзіі Вольгі Куртаніч дасць добры хлеб плойме мова- і літаратуразнаўцаў. Нават «звычайнае» класічнае слоўца можа паэтка «абкуртанічыць»: не «жалейка» (чуеш, Купала?», а «жулейка», не «кропля» — «капка». Не «говар» (гаворка) — «гвор». Так, не кожны з нас патрапіць «ятрыць» ды «зеліць», ды рабіць гэта «крытна» з дапамогай «аснутых» і «блядых» «слоў-выдмаў»... Любіць паэтка і прыгожую старажытную форму дзеяслова — «шукацьме», «стаіцьме», «счакацьме»...

У паэзіі Вольгі шмат чараўніцтва. Мабыць, кожны яе верш і ёсць замова? А якая замова без таямнічасці, містычнага налёту? Ці не дзеля таго — ужыванне страшнаватых наватвораў, дыялектызмаў ды архаізмаў? Бо сапраўды сэнс некаторых вершаў трэба не вычытваць-вылічваць, а хутчэй адчуваць, як, прыкладна, у вершы «Трохсоты»:

*Лягу халоднай і чыстай,*
*Як парнікoвы нарцыс.*
*Вернікаў будзе трыста.*
*Трыста ядвабных рыз.*
*А заміж іх лагодна*
*Мой — адбалелы ўвесь —*
*Пякучы, самотны, голы.*
*У змытай крыві надрэз (?!)...*

Прастора для пачуццяў незвычайная... Ад асацыяцыі з «Перажыткамі паганскага светапогляду беларусаў» Адама Рыгоравіча Багдановіча да.., прабачце, «Жульеты» Маркіза дэ Сада. Ёсць і такая асацыяцыя са зборнікам увогуле: куфэрак, даверху насыпаны каштоўнымі камянямі, неапрацаванымі, дарагімі і не вельмі, але — прыгожымі прыроднай прыгажосцю. Перамяшаныя, неадшліфаваныя, не ўпраўленыя ў залатыя-срэбныя аправы — яны каштоўнасці...

Хаця жанчыны так любяць біжутэрыю...

**Дамавічанка.**

Клуб абітурыентаў

<u>Дыктоўка</u>

## Нясвіж

Пра паходжанне назвы Нясвіж існуюць аж тры народныя паданні. Вось першае з іх. Узвёўшы замак, уладальнік горада князь Радзівіл доўга не мог прыдумаць яму назву. Ён загадаў слугу ісці да людзей і запомніць першае слова, якое яны вымавяць. Слуга сустрэў чалавека, які нёс рыбу, і спытаў у яго, ці свежы ў яго карп. «Не свеж», — адказаў чалавек. З той пары і пачалі называць гэтае месца Нясвіж.

Згодна з другім паданнем, на тым месцы, дзе стаіць цяпер Нясвіж, было некалі старажытнае паселішча. Але аднойчы паселішча правалілася ў зямлю, а на яго месцы засталіся толькі ямы ды ўзгоркі. Шмат часу прайшло пасля таго, як тут зноў пасяліліся людзі. Але паколькі месца гэтае было не свежае, бо тут некалі жылі людзі, дык яго і назвалі Нясвіж.

Нарэшце трэцяе паданне. Яно напамінае аб тым, што ўлюбёнымі занятками нясвіжскіх князёў былі паляванне і розныя забавы. Аднойчы князі разам з чэляддзю палявалі на мядзведзяў. Адзін звер быў паранены, але ўцёк. Праз некалькі дзён князі адправіліся на паляванне і знайшлі таго мядзведзя, але ўжо мёртвага. Адзін з князёў пад'ехаў да звера, агледзеў ды і кажа: «Не свеж». Адсюль і назва — Нясвіж.

**Падрыхтаваў Іван КАЗЛОЎСКІ.**

# Другая Тэрміналагічная канферэнцыя: мэты дасягнутыя

*(Заканчэнне. Пачатак на с.6.)*

-ый- і ўлучэнне ўласнабеларускіх словаўтваральных сродкаў пры фармаванні навуковых тэрмінаў і паняццяў, напрыклад: копіяваць — ад «копія», дрэнажаваць — ад «дрэнаж», культывавальная тканка; адсарбавальны, **або які адсарбуе, адсарбоўвае; развязальная задача і г.д.**

**На канферэнцыі** канстатаваліся факты з заганнай практыкі (журналісцкай, педагагічнай, выдавецкай) бяздумнага калькавання з расійскай мовы тэрміналагічнай і наменклатурнай лексікі. Прыкладаў незлічона. Калі ласка, толькі з маёй прыродазнаўчай сферы: браджэнне, баранаванне, бруханогія, пазваночныя, млекакормячыя, падзолістыя глебы, ікра (анатамічны тэрмін), мышца, печань, дравесны, дубільны... Яны парушаюць нацыянальны лексічны камфорт, прыводзяць нават да сэнсавага абсурду. Напрыклад, ужыванне калькаваных геалагічных тэрмінаў «бурэнне» і «бурыць» стварае сэнсавую блытаніну, паколькі ў беларускай літаратурнай мове «бурыць» значыць «руйнаваць» (глядзіце: «разбураная гаспадарка»). А такія лексемы, як «падпайванне», «спайка», «спайванне» (ад «паяць»). Ёсць жа цудоўны ўласнабеларускі эквівалент «літаваць» і шматлікія вытворныя ад яго, замацаваныя ў слоўніку доктара Я.Станкевіча. І ці не ад гэтага слова старажытны шматвяковы назоў нашай Бацькаўшчыны — Літва (злітаваныя землі — княствы, аб'яднаная краіна)!

Як адзначыў у свой час (20-я гады) вядомы ўкраінскі тэрмінолаг Рындык, «свой тэрмін, нават няўдалы, лепшы за чужы» з боку яго зразумеласці, зручнасці.

Высновы нашай канферэнцыі могуць служыць падставай для далейшай выпрацоўкі агульных прынцыпаў у тэрмінастварэнні і ўкладанні слоўнікаў. Гэта ўжо раздзел працы дзяржаўнай Тэрміналагічнай камісіі. Канферэнцыя свае меркаванні выклала. Наступны этап — шліфаванне і адаптацыя тэрмінаў-наватвораў, стварэнне банкаў тэрміналагічных адзінак па канкрэтных галінах ведаў. Ужо пачатая ў гэтым кірунку па хіміі, медыцыне і фітацэналогіі. Ход справы мусіць абмяркоўвацца ў творчых калектывах, у галіновых секцыях Тэрміналагічнай камісіі. І ўрэшце мы падыдзем да фармавання пэўных тэрмінасістэм і фіксавання нацыянальных тэрміналагічных стандартаў.

Адметнасцю Другой нацыянальнай Тэрміналагічнай канферэнцыі былі, па-першае, шырокі і дэталёвы гістарычны агляд айчыннага тэрмінатворчага працэсу і азнаямленне з замежным тэрміналагічным досведам. Чаго летась вельмі нехапала. Па-другое, нягледзячы на неспрыяльны час, да тэрміналагічнай працы актыўна спрычынілася моладзь. Асабліва хочацца адзначыць гадаванцаў прафесара Алеся Арцішэўскага, студэнтаў Менскага медычнага інстытута Кацярыну Цярэшка, Алега Федаровіча і Аляксея Галюка. Я ў адной з імі секцыі працаваў і таму добра ўкрэсіліся цікавыя маладыя асобы. Усяго на другім курсе, — а такі грунтоўны ўзровень дакладаў! Значыць, жыве беларуская тэрміналогія.

І будзе жыць Літва—Беларусь!

**— На гэтай аптымістычнай ноце і завершым гутарку. Дзякую. І плёну Вам і Вашым шматлікім руплiўцам!**

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Навіны культуры



У культурным жыцці раённага цэнтра Крупкі вялікая падзея — адкрыўся гісторыка-этнаграфічны музей. Ён створаны сумеснымі намаганнямі тамтэйшага аддзялення Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, раённага аддзела культуры і шэрага прадпрыемстваў горада, якія матэрыяльна падтрымалі новы музей. У стварэнні музея, перш за ўсё, заслуга руплівцаў — народных майстроў Таццяны Белай, Надзеі Крываром, мастака Аляксандра Міхеева, Сяргея Варламава ды іншых.

У зале баявой славы сабраныя матэрыялы пра тых землякоў, якія ваявалі ў часе Другой сусветнай вайны. Дзве іншыя прысвечаныя народнай творчасці, вясковаму побыту, звычаям ды традыцыям, што бытуюць у тых месцах.

Ткачыха Надзея Крыварот у музейнай зале паказвае работу на кроснах. Трэба зазначыць, што для Крупкаў адкрыццё гэтага музея стала святам. Гучалі народныя песні, гасцей частавалі пышнымі блінцамі, беларускім салам і духмянай медавухай.

**На здымку**: Сваё майстэрства паказвае ткачыха **Надзея Крыварот**.

**Яўген КАЗЮЛЯ, Белінфарм.**

## У старых фаліянтах

### Чыстыя і не вельмі...

Нашыя продкі слылі сваім ахайным адзеннем, пашытым з белага палатна, якое, дарэчы, лёгка мылася ў лугу — спецыяльна рыхтаванай росцечы з попелу. Дасціпнае сялянскае вока заўважала людскія хібы.

*У ладным адзенні, а бруд — аж блішчыць.*

*Чыста ходзіць, ды не бела мыецца.*

Захаваліся згадкі пра «лазебныя» звычаі нашых даўніх уладароў. Ягайла, прыкладам, хадзіў у лазню што трэці дзень, а калі-нікалі і часцей. Гэта занатаваў і вядомы храніст Длугаш. Ён перадаў байку пра тое, як польская каралева Ядвіга чакала невядомага ёй жаніха. Каралева не ўтрымалася, паслала Завішу з Аляснiцы, аднаго з сваіх дарадцаў, да Ягайлы, каб той пазнаёміўся з яе жаніхом, а пасля распавёў ёй, які Ягайла з твару і постаці. Наш жа князь не дурны быў і здагадаўся пра сапраўдную місію госця з Кракава, павёў яго з сабою ў лазню, каб той не толькі ўбачыў яго постаць, але і асобныя часткі цела.

Відаць, княжычаў прывучыла да асабістай гігіены іх маці, княжна-крывічанка Ульяна, бо і Вітаўт, Ягайлаў брат, купаўся штодня, а Свідрыгайла нават паслаў пасланцоў да папы Рымскага, каб той дазволіў яму мыцца ў нядзелю. Ягайлавы нашчадкі Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст не выязджалі ў дарогу без сваіх лазебнікаў.

У той час у Заходняй Еўропе такіх звычаяў, відаць, не трымаліся. Вядома, прыкладам, што каралева Ізабэла Кастылійская трапіла на старонкі гісторыі як верная і... неахайная жонка. Калі яе муж рушыў на вайну з маўрамі, яна паклялася, што не зменіць кашулі і не пойдзе ў лазню да таго часу, пакуль ён не вернецца. Кароль быў на вайне тры гады...

Кароль Навары Генрых IV стаў героем анекдота, у якім распавядаецца, як аднойчы ён убачыў прыгожую сялянку, якая разбівала гной на полі, і дамогся, каб яе прывялі да яго ў спальню. Каралеўскі шамбалян загадаў, вядома, каб маладзіцу добра памылі. І калі сялянка чысцюткая, апынулася перад Генрыхам IV, той паглядзеў на яе расчаравана і сказаў: «Чаму ж вы мне яе так папсавалі?»

**Вычытаў З.С.**

### Чаму ўцякаў

За царскім часам яўрэям можна было жыць у Маскве і Пецярбургу выключна на падставе спецыяльных дазволаў. Зразумела, што бальшыня з іх жыла ў тых местах без дазвалення, за што сурова каралася царскімі ўладамі. На адной з маскоўскіх вуліц стаялі двое яўрэяў. Адзін з іх меў дазвол на жыхарства ў Маскве. Нечакана з-за рога дому з'явіўся гарадавы. Што рабіць? Яўрэй, які меў дазвол, кінуўся наўцёкі. Гарадавы, вядомая рэч, за ім. Па доўгім бегу, калі той другі, які не меў дазволу, быў ужо далёка, яўрэй, засопшыся, спыніўся. Праз хвілю яго дагнаў гарадавы.

— Жыдзе, а ці маеш ты дазвол на жыхарства ў Маскве? — з трыумфальным выглядам пытаецца гарадавы.

— Проша, пане гарадавы, вось дазвол, — з усмешкай падае яму дакумент яўрэй.

— То чаму ты ўцякаў?

— Ведаеце, пане гарадавы, мне лекар параіў шмат рухацца і адпаведна ягонаму даручэнню я штодня па снеданні бегаю колькі мінут.

— Яно то так, але ж ты бачыў, што я бег за табою. Чаму ты не спыніўся?

— Дык я думаў, што і пане гарадавы лечыцца ў таго самага лекара.

***Пераклад з польскай Алега ДЫШЛЕВІЧА.***

## АКТУАЛЬНАЯ ЗАГАДКА

Хто пры любой уладзе на хлебнай пасадзе? Не, не бюракрат.

(Пекар)

## СКАБКІ

Чалавек — гэта гучыць горда, затое малпа — перспектыўна.

Дурань небяспечны не столькі глупствам, колькі пачаткамі розуму ў сукупнасці з велізарнай энергіяй.

**Андрэй ГАТОЎСКІ.**

У прынцыпе, мы памыляемся толькі двойчы: калі ацэньваем сябе і калі ацэньваем іншых.

**Леанід БАЛЦАН.**

Калі народ нямы, то вядома, як ён галасуе на выбарах.

Калі глядзець толькі ў місу, то ўсё роўна, які над табою сцяг.

## КРУТЫЯ ДУМКІ

Калі чалавек намагаецца стварыць рай на зямлі, адразу ж робіцца з гэтага звычайнае пекла.

**Поль КЛАДЭЛЬ.**

Народ маўчыць — і гэтым усё сказана.

Рабу не трэба свабода, яму патрэбен добры гаспадар.

Мы здолелі зрабіць жыццё казкай, але, божухна, якой страшнай яна атрымалася!

Матэрыялісты за ўсё расплачваюцца грашыма, ідэалісты — галавой.

Сярод тых, хто патанае ў раскошы, утапістаў не сустрэнеш.

Кожны робіць глупствы ў меру свайго розуму.

**Барыс КРУЦІЕР.**

# Да ўсіх камерцыйных структур, фірм, сумесных прадпрыемстваў, банкаў, усіх грамадзян, каму дорага Родная мова, нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны

## *Дарагія сябры!*

Вось ужо 6 гадоў дзейнічае ў Рэспубліцы Беларусь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Гэтая добраахвотная, грамадская, культурна-асветніцкая арганізацыя створана на хвалі ўсеагульнага імкнення народа да нацыянальнага адраджэння.

Найвышэйшай мэтай і сэнсам існавання Таварыства з'яўляецца аднаўленне ў грамадстве стаўлення да Роднай мовы як да нацыянальнай святыні, адраджэнне гістарычнай памяці і традыцыйнай культуры народа. ТБМ выступае за пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры. За прайшоўшы час праведзена значная работа па аб'яднанні ўсіх, каму дорага родная мова, суверэнітэт і незалежнасць Бацькаўшчыны. У сучасны момант ТБМ аб'ядноўвае каля 140 гарадскіх, раённых і рэгіянальных арганізацый, актывісты каторых самаахвярнай і самааддана́й працай садзейнічаюць прапагандзе Роднай мовы, вяртанню яе ў грамадскі ўжытак. У сваёй рабоце Таварыства выкарыстоўвае разнастайныя формы і метады. Сярод іх выдавецкая дзейнасць, правядзенне канферэнцый, сходаў, конкурсаў, курсаў па вывучэнні беларускай мовы і г.д. Пры непасрэдным удзеле ТБМ падрыхтаваны Закон аб мовах, зроблены многія іншыя захады і ініцыятывы.

У сакавіку 1990 года выйшаў першы нумар друкаванага органа ТБМ — штотыднёвай газеты «Наша слова». За час свайго існавання газета, яе рэдакцыя зрабілі вялікую справу па адраджэнні ў жыцці народа беларускай мовы, па аб'яднанні дзеля гэтай высакароднай мэты руплiўцаў нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Лісты ў рэдакцыю сведчаць аб тым, што газета карыстаецца вялікім аўтарытэтам у сваіх чытачоў.

У гэтым жа годзе ў цэнтры Менска, на праспекце Скарыны быў адкрыты кіёск Таварыства. За пяць гадоў кіёск набыў рэпутацыю культурна-асветніцкага асяродка, дзе жыхары і госці сталіцы маюць магчымасць набыць беларускія нацыянальныя сувеніры, газеты, часопісы, кнігі, паштоўкі і іншыя выданні, прысвечаныя мове, гісторыі і культуры беларускага народа.

Аднак прыходзіцца канстатаваць, што ТБМ і яго друкаваны орган газета — «Наша слова» працуюць у надзвычай складаных умовах. Напрыклад, пры той агромністай рабоце, якую вядуць мясцовыя арганізацыі, Рэспубліканская рада па вырашэнні адказнай і высакароднай задачы па адраджэнні Роднай мовы, з боку дзяржавы няма ніякай падтрымкі. Уся работа вядзецца на грамадскіх пачатках і ўсё трымаецца на энтузіязме і самаахвярнасці руплiўцаў. Рэспубліканская рада мае памяшканне, за арэнду якога, камунальныя і другія паслугі прыходзіцца плаціць велізарныя грошы. Няма магчымасці ўтрымоўваць нават невялікі штат супрацоўнікаў. Спадзявацца на лепшае з боку дзяржавы, тым больш у сучаснай сітуацыі — марная справа. У хуткім часе можа стварыцца сітуацыя, пры якой існаванне Таварыства беларускай мовы стане немагчымым. На мяжы спынення існавання знаходзіцца і газета «Наша слова». У апошні час прыпынена фінансаванне газеты дзяржавай. Ужо не выйшла некалькі нумароў. І гэта ў час падпісной кампаніі! Для выратавання газеты патрэбна набыць тэрмінова выдавецкі комплекс, які каштуе 4—5 тыс.долараў.

Навісла пагроза і яшчэ над адным асяродкам ТБМ — кіёскам, што на праспекце Скарыны. Паколькі кіёск драўляны, старога ўзору — гарадскія ўлады патрабуюць замяніць яго на металічны. Замена кіёска патрабуе больш за 3 тыс.долараў. Такія справы.

Усведамляючы, што няма будучыні ў дзяржавы, якая не мае сваёй дзяржаўнай мовы, а значыць, няма будучыні ў палітычных, камерцыйных і іншых структур, мы звяртаемся да Вас, паважаныя сябры: дапамажыце выжыць грамадскай арганізацыі, якая ўзяла на сябе высакародную задачу абароны Роднай мовы, што раўназначна абароне дзяржавы, яе суверэнітэта і незалежнасці.

Калі Вы знойдзеце магчымасць падтрымаць нас, просім даступныя для Вас фінансавыя сродкі пералічыць на наш разліковы рахунак № 700510 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Валютны рахунак № 000700704 у банку знешэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

**25 траўня 1995 г.**

## Пачутае «У Лявона»

* * *

— Ці чытаў ты абвестку каля ўваходу, — пытае адзін сталы наведвальнік шынка «У Лявона» свайго прыяцеля.

— Тую, дзе напісана: куплю крылы? Чытаў.

— Гэта я яе напісаў...

— Хочаш сюды прылятаць?

— Не, хаця б пералятаць вуліцу.

* * *

— Памог бы мне што-небудзь, а то ўсё сядзіш і сядзіш у гэтым шынку. І чаго цябе туды цягне? — папракае жонка мужа, які збіраецца выходзіць з дому...

— Там музыка, а я люблю музыку.

— То хадзіў бы лепш у оперу.

— Калі ж там няма піва.

* * *

— Каб не гэтае прыхаванае беспрацоўе, то Мікалай застаўся б круглым сіратою.

— Чаму?

— Раней ён усё адпрошваўся з работы — нібы хаваць сваіх родзічаў.

— І мая цешча ўжо ног не ломіць...

* * *

— Сёння я напаткаў Пятруся з жонкай, ішлі пад ручку... А збіраліся ж разводзіцца...

— Як палічылі, колькі ім гэта будзе каштаваць, то вырашылі лепш адрамантаваць кватэру.

* * *

— Чаму гэта ты так шмат п'еш?

— Ды не, я толькі адну чарку ўзяў!

— Толькі пры мне ты ўжо некалькі выжлуктаў...

— Калі я выпіваю другую чарку, — раблюся зусім іншым чалавекам. А яму што, не трэба выпіць?

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 2143

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5991 паасобнік.
Падпісана ў друк 21.06.1995 г. у 15 гадзін.